

Жыве Беларусь!

# Народная газета

Орган Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь

№108 (621) 4 чэрвеня 1993 г. Пятніца. Выдаецца з кастрычніка 1990 года на беларускай і рускай мовах. Тыраж 617155 экз. Кошт у розніцу — 4 руб.

## ФАКС

### За ценой не постоим. Постоим на митинге

**Если Совмин, как и планирует, отпустит цены на основные продукты питания и повысит тарифы на жилищно-коммунальные услуги, Федерация профсоюзов Беларуси оставляет за собой право на проведение акции протеста.**

Об этом говорится в обращении ФПБ к правительству. Для смягчения последствий от грядущего подорожания предлагается пересмотреть минимальную зарплату, так как даже последнее ее повышение до 6 тысяч 6ОО рублей не отвечает фактической стоимости "потребительской корзинки".

По мнению Федерации профсоюзов, до освобождения цен необходимо также изменить систему налогообложения и кредитования предприятий.

**Виктор АНАТОЛЬЕВ.**

### Витебск — "кузница" красавиц

**Славу "кузницы кадров" для конкурсов красоты подтвердил Витебск.**

По стопам "Мисс Беларусь" и "Мисс СССР" Маши Кежа, работающей сейчас в парижской фирме Кристиана Диора, сделала первый, но уверенный шаг ее землячка 17-летняя Света Пасюк. Победив на республиканском этапе конкурса "Мисс — модель мира", она получила приглашение на заключительный тур этого состязания среди 100 красавиц планеты, которое началось в Стамбуле на днях.

Проникнувшись важностью момента, работники Витебского УВД в рекордно короткий срок выписали своей очаровательной землячке заграничный паспорт.

**Сергей БЕЛЫЙ.**

### Сто граммов на зуб

**В стоматологической поликлинике города Береза зубы теперь удаляют только тогда, когда больной приходит со своим новокаином.**

На беду, этого обезболивающего средства в городских аптеках нет, и клиентам предлагают что-либо его заменяющее.

**Розалия КАРПЕШ.**

### Креста на них нет!

**В помощь розыскным службам Беларуси и соседних республик призывают Бога прихожане старообрядческой церкви в Булавишках Браславского района.**

Из местного храма похищено 12 ценных икон.

**Сергей БУТКЕВИЧ.**

### Какой талант без мецената?

**Выставкой-продажей работ витебской художницы Людмилы Вороновой открылась на рабочей окраине Полоцка частная картинная галерея.**

Это произошло благодаря энтузиазму директора комбината стройматериалов Владимира Тележникова, нашедшего подходящее помещение, и деньгам, отпущенным на презентацию местным предпринимателем Александром Мерцаловым, который, кроме того, взял на свое содержание другой частный художественный салон в центре древнего города.

**Сергей ПОЛОЦКИЙ.**

### В прицеле — журналисты

**Доминик Лону, оператор мексиканской телекорпорации "Телевиса", погиб на днях в Боснии и Герцеговине.**

Он убит на шоссе неподалеку от города Сребреница. Автомашина с группой "Телевисы", следовавшая за конвоем ООН, была обстреляна, как предполагают, сербским снайпером.

Доминик стал 31-м журналистом, погибшим в Боснии и Герцеговине с начала этого года.

**Алексей КРАВЧЕНКО.**

### Вкратце

**В Минске правительственные делегации Беларуси и Кыргызстана подписали соглашение о денежно-кредитных отношениях двух государств в связи с введением Кыргызстаном национальной валюты — сома.**

Соглашение предусматривает урегулирование до 1 июля 1993 года министерствами финансов и национальными банками двух государств всех взаимных долговых обязательств.

❑

**Вчера в Москве открылось совещание по вопросам сотрудничества в области экспортного контроля в рамках СНГ.**

Совещание, в котором помимо представителей стран, подписавших минское соглашение, участвуют в качестве наблюдателей делегации Эстонии и Грузии, продлится два дня.

❑

**В Кремле вчера начались российско-чилийские переговоры на высшем уровне.**

Ожидается подписание двусторонних документов и прежде всего декларации о принципах взаимоотношений и сотрудничества между двумя странами.

❑

**Вчера в Таджикистане начато судебное рассмотрение дела об оппозиционных партиях и движениях в республике.**

Как следует из прокурорского иска, общественно-политические организации обвиняются в нарушении собственных уставов и программ, а также в совершении таких антиконституционных деяний, как призывы к насильственному свержению законных органов власти и создание военизированных формирований.

❑

**Верховный Совет Украины начал вчера обсуждение вопроса о ратификации договора о сокращении и ограничении стратегических наступательных вооружений и о присоединении к договору о нераспространении ядерного оружия.**

❑

**Вчера в Московском округе внутренних войск начались командно-штабные учения.**

В течение двух суток командиры и штабы отработают на картах вопросы организации служебно-боевого применения войск и управления ими в чрезвычайных ситуациях.

❑

**Союзная Республика Югославия призвала продлить еще на год пребывание в Хорватии сил ООН по охране, мандат которых истекает 30 июня.**

Об этом говорится в письме председателя правительства СРЮ Р.Контича.




Рисунок Олега ПОПОВА.

### По разные стороны баррикад

**Крупными беспорядками завершилась вчера ночью в Гамбурге многотысячная демонстрация протеста против совершенного в прошлую субботу неонацистами в Золингене убийства пяти граждан Турции.**

Несколько сот молодых турок и немцев воздвигли в одном из центральных кварталов города баррикады и подожгли их. Манифестанты опрокидывали автомобили, громили и грабили витрины магазинов.

В результате 48 демонстрантов арестованы, 29 полицейских и пять манифестантов получили ранения.

**Геннадий ТЕМНЕНКОВ.**

### Почем валюта?

**С 3 июня Национальным банком установлены курсы иностранных валют**

| | Единый курс | Курс инвест. | К долл. США |
|---|---|---|---|
| 1 австрал.доллар | 1,109.80 | 336.10 | 1.4877 |
| 1 австр.шиллинг | 147.72 | 44.74 | 11.1766 |
| 1 фунт стерлинг. | 2,579.82 | 781.29 | 0.6400 |
| 10 бельг.франков | 505.98 | 153.23 | 32.6297 |
| 1 немец.марка | 1039.41 | 314.78 | 1.5884 |
| 1 голлан.гульден | 926.48 | 280.58 | 1.7820 |
| 1 датская крона | 271.03 | 82.08 | 6.0916 |
| 100 итал.лир | 112.31 | 34.01 | 1,470.0383 |
| 1 канад.доллар | 1,295.62 | 392.37 | 1.2743 |
| 1 норвеж.крона | 244.63 | 74.09 | 6.7490 |
| 1 доллар США | 1,651.00 | 500.00 | 1.0000 |
| 1 фин.марка | 305.59 | 92.55 | 5.4027 |
| 1 франц.франк | 307.51 | 93.13 | 5.3689 |
| 1 шведск.крона | 229.81 | 69.60 | 7.1842 |
| 1 швейцар.франк | 1,161.75 | 351.83 | 1.4211 |
| 10 японск.йен | 154.40 | 46.76 | 106.9301 |
| 1 ЭКЮ | 2,020.16 | 611.80 | 0.8173 |
| 10 испанск.песет | 131.17 | 39.72 | 125.8672 |
| 10 греч.драхм | 76.24 | 23.09 | 216.5530 |
| 1 ирландск.фунт | 2,530.97 | 766.50 | 0.6523 |
| 1 исландск.крона | 26.21 | 7.94 | 62.9912 |
| 1 кувейт. динар | 5,498.38 | 1,665.17 | 0.3003 |
| 10 ливанск.фунтов | 9.53 | 2.89 | 1,732.4239 |
| 10 португ.эскудо | 107.91 | 32.68 | 152.9979 |
| 1 сингап.доллар | 1029.50 | 311.78 | 1.6037 |
| 10 турецк.лир | 1.64 | 0.50 | 10,067.0732 |
| 1 эстонск.крона | 129.93 | 39.35 | 12.7068 |
| 1 СДР | 2,358.40 | 714.23 | 0.7001 |
| 1 российский рубль | 2.00 | | |
| 1 укр.карбованец | 0.24 | | |
| 1 литовский талон | 3.50 | | |
| 1 латвийский рублис | 12,62 | | |

**Курс клиринговых валют**

1 доллар США по расчетам с Кубой . . 500.00

1 доллар США по расчетам с ЧСФР . . 500.00

**Выпуск подготовлен по сообщениям корреспондентов "Народной газеты", агентств ИТАР—ТАСС, Белинформ, БелаПАН и РИД.**

*На сесіі Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь*

# Хто будзе курыраваць КДБ — Вярхоўны Савет ці Саўмін?.. Пытанне ёсць, адказу — няма

**Валеры ДРАЗДОЎ**

На вячэрнім пасяджэнні ў сераду працягвалася абмеркаванне праекта Закона "Аб узмацненні барацьбы са злачынствамі ў сферы эканомікі і з карупцыяй". Ён невялікі, складаецца ўсяго з шасці артыкулаў, але ўвагі народныя дэпутаты ўдзялілі яму значна больш, чым іншым. Размовы аб неабходнасці тэрміновага прыняцця гэтага нарматыўнага акта ў парламенце ідуць ужо больш года, і народ — усе ў гэтым тут упэўнены — даўно яго чакае. Але зноў жа літаральна па кожнаму абзацу законапраекта разгараліся гарачыя спрэчкі. Дэпутат Віктар Піскароў назваў яго наогул "папулісцкай заявай", якая нічога не дае барацьбе з карупцыяй, і прывёў для прыкладу аналагічны закон, прыняты ў першым чытанні Вярхоўным Саветам Расійскай Федэрацыі, дзе выкладзены паняцці па папярэджванню, ліквідацыі наступстваў карупцыі і адразу ж прыкладзены змяненні да Крымінальнага кодэкса. У беларускім праекце закона нічога такога няма. Дайшло да таго, што народныя абраннікі звярнуліся да Вялікай Савецкай Энцыклапедыі, каб выявіць трактаванне слова "карупцыя", а дэпутат Мікалай Аксаміт стаў цікавіцца, за што наогул члены Камісіі па пытаннях нацыянальнай бяспекі, абароны і барацьбы са злачыннасцю атрымліваюць зарплату? У рэшце рэшт, антыкарупцыйны нарматыўны акт быў дружна накіраваны на дапрацоўку.

Напрыканцы дня было разгледжана пытанне аб кампенсацыі страт, панесеных сельскай гаспадаркай у 1992 годзе ў сувязі з лібералізацыяй цэн на прамысловую прадукцыю, работы і паслугі.

❑

Раніцай даволі цікавы пачатак быў у "Розным". Трохдзённую чытацкую канферэнцыю па артыкуле ў "Народнай газеце" Мечыслава Грыба прадоўжыў народны дэпутат Леанід Прывалаў. Даволі рэзка ён "атакаваў" Старшыню Вярхоўнага Савета і іншых членаў Прэзідыума Вярхоўнага Савета, якія маюць свой асабісты погляд на пытанні калектыўнай бяспекі. Дэпутат лічыць, што Старшыня Вярхоўнага Савета ў лісце 28 мая, накіраваным кіраўнікам дзяржаў — удзельнікаў Дагавора аб калектыўнай бяспецы, перавысіў свае паўнамоцтвы.

Апазіцыя тут жа наладзіла прамоўцу "абструкцыю". Распачаўся шум, гучалі даволі моцныя недвухсэнсоўныя прапановы тыпу "Прэч з трыбуны!" Падтрымаўшага Прывалава народнага дэпутата Івана Трусава сустрэлі некалькі спакайней. Можа, таму, што ён, абапіраючыся на газетны артыкул і рэакцыю на яго Станіслава Шушкевіча ў аўторак і члена Прэзідыума Вярхоўнага Савета Аляксандра Саснова ў сераду, пабудаваў сваё выступленне ў форме афіцыйнага дэпутацкага запыту. Трусаў задаў Станіславу Шушкевічу аж шэсць пытанняў, першым з якіх было: "Ці можна лічыць, што Дагавор аб калектыўнай бяспецы ўжо падпісаны?" Ён патрабаваў даць адказ пісьмова ў агавораным рэгламентам парадку.

Тое, што прэса ўсё ж з'яўляецца "чацвёртай уладай", у гэты дзень пацвердзіў народны дэпутат Генадзь Казлоў. Крыху пахваліўшы газету "Фемида", ён "воздал должное" карэспандэнцы, дзе цяперашняя сесія названа больш багатай на скандалы, чым на канструктыўную дзейнасць, а галоўнай мэтай на ёй дэпутацкай групы "Беларусь" — скіданне з пасады Станіслава Шушкевіча. Ні больш ні менш! Генадзь Казлоў, нагадаўшы пра журналісцкую адказнасць, афіцыйна заявіў, што такое рашэнне на сённяшні дзень дэпутацкае аб'яднанне "Беларусь" не прымала.

Дэпутата Мікалая Маркевіча непакоіла непрадуманая, на яго асабістую думку, палітыка ўрада, якую той праводзіць у знешнеэканамічнай дзейнасці. Ён меў на ўвазе нядаўнюю пастанову Саўміна аб заცвярджэнні ставак падаткаў на экспарт і імпарт, падпісаную 10 мая, але якая дзейнічае з 1 мая г.г. Маркевіч прывёў прыклад з гродзенскім прадпрымальнікам, які спраўна заплаціў падатак на імпарт, а потым раптоўна даведаўся, што вінаваты дзяржаве яшчэ 19 мільёнаў рублёў. Чалавек адразу стаў банкрутам. Не толькі прадпрымальнікі, але і кіраўнікі дзяржаўных прадпрыемстваў лічаць: такі жорсткі рэжым падаткаабкладання прыводзіць да таго, што работа на экспарт і імпарт становіцца немагчымай.

Пасля "Рознага" дэпутаты прыступілі да разгляду праекта Закона Рэспублікі Беларусь "Аб страхаванні". Сёння ў рэспубліцы займаюцца гэтай справай 55 самых розных арганізацый. Працэс пры поўнай адсутнасці заканадаўчай базы, па сутнасці, стаў некантралюемым. Страхавыя арганізацыі не публікуюць сваіх балансаў, няма адзінства ў дакументах, уліку, метадалогіі. Гэта прыводзіць да таго, што некаторыя страхавыя фірмы ставяць на грань банкруцтва не толькі сябе, але і сваіх кліентаў. Ёсць прыклад, калі страхавая фірма, якая мае статутны фонд дзесьці 3 мільёны рублёў, страхуе крэдыт аж 26 мільёнаў. Адзіным дзяржаўным падраздзяленнем, што займаецца страхавым рынкам, з'яўляецца Дзяржстрахнагляд. Арганізацыя, якая, прабачце, не мае ні кала, ні двара, г.зн. нават памяшкання.

Час не чакае, закон патрэбен як паветра. Але і тут дэпутаты не знайшлі кансенсусу. Законапраект будзе дапрацоўвацца. Праўда, заўваг не вельмі шмат.

Праект Закона "Аб Камітэце дзяржаўнай бяспекі" разглядаўся, як і іншыя, у другім чытанні. Галоўным пытаннем, якое прагучала ўчора, было такое: каму павінен падпарадкоўвацца Камітэт дзяржаўнай бяспекі — Вярхоўнаму Савету ці Савету Міністраў? Апаненты і таго, і другога боку раз за разам выкладвалі ўсё больш важкія аргументы. Справа дайшла да галасавання, якое высветліла: за Саўмін стаяць горой 147 дэпутатаў, за Вярхоўны Савет — 80. Галасы падзяліліся. Пытанне сур'ёзнае: КДБ — структура сілавая... Пакінем пакуль што гэту сітуацыю без каментарыяў.

❑

Абмеркаванне праекта Закона "Аб Камітэце дзяржаўнай бяспекі" працягвалася і на вячэрнім пасяджэнні. Па ўсім бачна, што і гэты нарматыўны акт будзе адпраўлены на дапрацоўку...

*Зварот да сесіі Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь*

## Мы, ветэраны Вялікай Айчыннай вайны, падтрымліваем Шушкевіча...

Мы, ветэраны Вялікай Айчыннай вайны, падтрымліваем зварот С.С.Шушкевіча ("Народная газета" ад 14 мая 1993 года), у якім ён пераканаўча абгрунтоўвае неабходнасць для Беларусі нейтралітэту і адмаўленне ад уступлення ў ваенныя і ваенна-палітычныя саюзы. Разам з тым лічым неабходным усямерна пашыраць узаемавыгадныя эканамічныя сувязі з Расіяй і іншымі дзяржавамі СНД. Вярхоўны Савет павінен неадкладна прыступіць да рашучай барацьбы з карупцыяй, раскраданнем дзяржаўнай маёмасці, злоўжываннямі службовым становішчам з боку розных кіраўнікоў, арганізаванай злачыннасцю. Мы выступаем супраць намаганняў пэўных палітычных сіл працягнуць рашэнне аб увядзенні на Беларусі дзяржаўнага двухмоўя. Пастанова Савета Міністраў "Аб пенсіях за асобыя заслугі перад Рэспублікай Беларусь". — гэта здзек з тых, хто абараняў Маскву і штурмаваў Кенігсберг і Берлін, хто ўсё сваё жыццё сумленна працаваў у калгасах, на заводах, у народнай гаспадарцы і на старасці гадоў не па сваёй віне страціў усе сціплыя працоўныя зберажэнні. Успомніце, нарэшце, каму, якому народу служыце? Хіба не заслужыў гэты народ лепшай долі?

**Ветэраны Вялікай Айчыннай вайны:**
**М.Уласік, Л.Хлышч, В.Праневіч, В.Малоўскі, П.Высоцкі, Д.Чорны, В.Блінец, А.Баршчэўскі, І.Кананові ч, Ф.Шклярык, П.Жаўняровіч, А.Макравус, Ф.Сядлецкі, В.Прыбалавец.**

*Да ўручэння вярыцельных грамат*

3 чэрвеня Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол Чэхіі ў Рэспубліцы Беларусь Рудольф Сланскі ўручыў вярыцельныя граматы Старшыні Вярхоўнага Савета Беларусі Станіславу Шушкевічу.

Рудольф Сланскі нарадзіўся 6 лютага 1935 года.

Пасля інсцэніраванага працэсу, у выніку якога яго бацька, былы генеральны сакратар ЦК КПЧ, быў пакараны ў 1952 годзе, Рудольф Сланскі працаваў штампоўшчыкам і фрэзероўшчыкам на заводзе. Без адрыву ад вытворчасці закончыў гімназію і машынабудаўнічы факультэт Чэшскага вышэйшага тэхнічнага вучылішча са спецыялізацыяй "Эканоміка і арганізацыя працы". Займаў шэраг гаспадарчых пасад на заводзе ЧКД у Празе.

За ўдзел у рэформах "пражскай вясны" быў у 1969 годзе выключаны з радоў КПЧ. З гэтага часу працаваў на розных тэхнічных пасадах, займаўся публіцыстычнай дзейнасцю. У 1977 годзе падпісаў "Хартыю-77".

У 1968—69 г.г. прадметам яго даследаванняў і тэарэтычных артыкулаў былі пытанні самакіравання, пасля 1970 года — унутраная эканамічная палітыка ЧССР, праблематыка СССР і чэхаславацка-савецкія адносіны.

З 23 лютага 1990 года па цяперашні час — Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол у СССР, пасля — у Расійскай Федэрацыі.

Валодае рускай і англійскай мовамі.

Жанаты, мае дваіх дзяцей.

**Белінфарм.**

*Анонс!*

## Ізраільскі генерал наведае Мінск

**4 мая ў Мінск па запрашэнню Ізраільскага фонду культуры і асветы ў дыяспары прыбывае генеральны дырэктар міністэрства камунікацый і паліцыі дзяржавы Ізраіль генерал Якаў Лапідот.**

У ходзе трохдзённага візіту ізраільскага генерала плануецца падпісанне дагавора аб супрацоўніцтве паміж МУС Беларусі і міністэрствам камунікацый і паліцыі дзяржавы Ізраіль. Якаў Лапідот таксама наведае Акадэмію міліцыі МУС Рэспублікі Беларусь і азнаёміцца з работай некаторых службаў гэтага міністэрства.

Мэта гэтага візіту — абмен вопытам паміж адпаведнымі службамі міністэрстваў дзвюх краін у барацьбе са злачыннасцю, азнаямленне з навейшымі метадамі і тэхнічнымі сродкамі гэтай барацьбы, а таксама абмен спецыялістамі асобных службаў для праходжання стажыроўкі.

Госцю будзе прапанавана вялікая культурная праграма.

**Белінфарм.**

*Адраджэнне*

## У цэнтры ўвагі — фальклор

У актавай зале філалагічнага факультэта БДУ праходзіць навукова-практычная канферэнцыя "Фальклор як сродак нацыянальнай свядомасці". У ліку яе арганізатараў — асацыяцыя фалькларыстаў Беларусі, міністэрствы культуры, адукацыі і інфармацыі нашай рэспублікі.

Праграма канферэнцыі даволі насычаная. На пленарным пасяджэнні будуць разгледжаны тэмы: "Фальклор і фарміраванне менталітэту беларусаў", "Інтэрпрэтацыя фальклору ў сродках масавай інфармацыі", "Фальклор і нацыянальнае адраджэнне" і іншыя.

**Белінфарм.**

*г.Мінск.*

*Адкрытым тэкстам*

## Нас трывожыць лёс Гродзенскага універсітэта

Будаўніцтва незалежнай беларускай дзяржавы — справа цяжкая і складаная. Яна можа быць паспяховай толькі ў тым выпадку, калі на яе рэалізацыю будзе накіраваны ўвесь інтэлектуальны і духоўны патэнцыял нацыі.

Значная яго частка сканцэнтравана ў трох універсітэтах: Беларускім, Гомельскім і Гродзенскім.

На жаль, не ўсе, на наш погляд, яны пакуль што з'яўляюцца нацыянальнымі. Што нас хвалюе — і сёння, як і раней, нічога не робіцца дзеля таго, каб яны сталі менавіта нацыянальнымі. Яскравым доказам гэтага з'яўляецца Гродзенскі універсітэт імя Янкі Купалы.

Здавалася б, што пасля прыняцця 27 ліпеня 1991 года Вярхоўным Саветам Дэкларацыі аб незалежнасці Рэспублікі Беларусь рэктарат паставіць галоўнай мэтай сваёй дзейнасці стварэнне нацыянальнага універсітэта і распачне яе мэтанакіравана ажыццяўляць. Аднак гэтага не адбылося. І не таму, што няма канцэпцыі. Яна ёсць. І ў агульных рысах зводзіцца да наступнага.

Першае. Пераход на беларускую мову навучання і выхавання студэнтаў усіх спецыяльнасцей. Тое, што робіцца ў гэтым накірунку, сёння хутчэй нагадвае кампанейшчыну, чым мэтанакіраваную дзейнасць. Штогод на беларускую мову пераходзяць 10—12 выкладчыкаў. Няцяжка падлічыць, калі закончыцца гэты працэс, ведаючы, што ва універсітэце працуе каля 500 выкладчыкаў.

Другое. Арыентацыя зместу адукацыі гуманітарнага цыкла на духоўную спадчыну беларускага народа, каштоўнасці яго нацыянальнага ладу жыцця. Цяпер, як і ў былыя "добрыя" часы, студэнту чытаюць тую ж марксісцка-ленінскую філасофію, змест і методыка выкладання якой, калі строга мовіць, амаль поўнасцю абмяжоўваюцца прафанацыяй дэфініцый. А якую псіхолага-педагагічную падрыхтоўку атрымлівае наш настаўнік? Галоўным чынам гулагаўскую педагогіку Крупскай, Луначарскага і іх паслядоўнікаў. Не лепшыя справы і са зместам гісторыі філасофіі, палітычнай навукі, літаратуразнаўства, сусветнай і айчыннай гісторыі і г.д.

Трэцяе. Паварот калектыву універсітэта да вырашэння рэальных праблем нацыянальна-культурнага адраджэння рэгіёна і краіны.

Чаму гэтая праграма яшчэ не стала галоўным накірункам дзейнасці? Адказ можа быць толькі адзін: нядольнасць і нежаданне кіраўніцтва універсітэта вырашаць такую задачу. Усё, што здзейснена ва універсітэце, зроблена, скажам адкрыта, не дзякуючы пазіцыі рэктарата, а супраць яго волі, ды яшчэ пад акампанемент рэктара: "Мы не позволим рушить дружбу народов!", "Мы приведем в порядок экстремистов, националистов!"

(Заканчэнне на 2-й стар.)




Малюнак Алега ПАПОВА

НАРОДНАЯ ГАЗЕТА

# Нас трывожыць лёс Гродзенскага універсітэта

**(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.)**

Нягледзячы на пэўныя змены, якія адбыліся ў нашым грамадстве, ва універсітэце застаецца пануючай тая ж псіхалогія і палітыка, якая праводзілася дзесяткі гадоў назад. Гэта выяўляецца і ў мэтанакіраваным папаўненні прафесарска-выкладчыцкага складу людзьмі з-за межаў Беларусі ў выцясненні з дапамогай паслухмянай вучонай рады такіх вядомых спецыялістаў-беларусаў, якім быў доктар гістарычных навук М.А.Ткачоў і інш.

Можна было б зразумець пазіцыю рэктарата, калі б з-за межаў Беларусі запрашаліся кваліфікаваныя спецыялісты. Што гэта не так, сведчыць апошні "набытак".

У верасні мінулага года загадчыкам кафедры міжнародных эканамічных адносін і міжнароднага права, членам вучонай рады універсітэта прызначаны дацэнт Р.П.Чырыч, які да гэтага працаваў у Рыжскім інстытуце грамадзянскай авіяцыі. Ён скончыў Рыжскі інстытут грамадзянскай авіяцыі па спецыяльнасці эксплуатацыя самалётаў і рухавікоў, мае кваліфікацыю інжынера-механіка, кандыдат эканамічных навук, дацэнт кафедры навуковай арганізацыі працы, вытворчасці і планавання грамадзянскай авіяцыі. Загадваў у Рызе кафедрай эканомікі працы.

Разам з ім прыехаў Лі Чон Ку, які выконваў абавязкі дацэнта кафедры эканомікі Рыжскага інстытута грамадзянскай авіяцыі. У першы ж дзень з'яўлення ў Гродне Лі Чон Ку атрымаў пасаду прафесара кафедры міжнародных эканамічных адносін і міжнароднага права, а таксама намесніка дэкана факультэта правазнаўства.

У маі бягучага года дзякуючы рэктару Р.П.Чырыч атрымаў чатырохпакаёвую кватэру. І гэта ва ўмовах, калі ў чарзе на жыллё болей за 100 выкладчыкаў і супрацоўнікаў універсітэта, у тым ліку дэкан факультэта беларускай філалогіі і культуры, дэкан інжынернага факультэта, многія загадчыкі кафедраў, дацэнты, якія аддалі універсітэту дзесяткі гадоў жыцця.

Ці трэба здзіўляцца, што нацыянальны склад прафесарска-выкладчыцкага корпуса універсітэта не адпавядае не толькі нацыянальнай структуры краіны, але і складанай у гэтым сэнсе Гродзеншчыны... З 452 прафесараў і выкладчыкаў беларусаў толькі 226, рускіх — 145, палякаў — 45, прадстаўнікоў іншых нацыянальнасцей — 36.

Пры атэстацыі выкладчыкаў (старшыня камісіі — прафесар А.І.Васкабоеў) у нас пастаянна парушаецца і свядома ігнаруецца пастанова аб абавязковым веданні дзяржаўнай (беларускай) мовы.

Зусім нядаўна ва універсітэце не без ведама рэктара выдадзена для студэнтаў кніжка А.І.Залескага і П.М.Кобрынца "О национальных отношениях в Советской Белоруссии", у якой тэндэнцыйна, у старым імперска-шавіністычным духу трактуецца гісторыя Беларусі. Так, у рэкламе-анатацыі да гэтай кніжкі, якая, на думку яе аўтараў, "станет настольной и будет полезной не только для преподавателей и студентов", сказана, што ў ёй знойдуць грунтоўнае асвятленне такія, напрыклад, пытанні, як: "когда в белорусском национальном движении появились национал-экстремизм, сепаратизм, антисоветизм?"; "кому и зачем понадобилось провозглашать так называемую Белорусскую Народную Республику?"

Развіццё Гродзенскага універсітэта як цэнтра падрыхтоўкі кадраў вышэйшай кваліфікацыі для рэгіёна патрабуе стварэння неабходнай матэрыяльна-тэхнічнай базы. Першачарговым у гэтым сэнсе з'яўляецца будаўніцтва вучэбных карпусоў, студэнцкіх інтэрнатаў, жылля для выкладчыкаў. За апошнія 20 гадоў у дадзеным накірунку амаль нічога не зроблена. Невялічкая прыбудоўка да вучэбнага корпуса N 2 і перадача горадам універсітэту некалькіх будынкаў ніяк не палепшылі становішча, бо прыём студэнтаў на дзённую форму навучання ў апошнія гады падвоіўся. Не пабудавана ніводнага інтэрната для студэнтаў. У выніку сёння універсітэт у разліку на аднаго студэнта стацыянара мае вучэбных плошчаў менш, чым меў 20 гадоў назад.

Складваецца ўражанне, што гэтыя праблемы амаль не цікавяць рэктарат.

Вучоная рада універсітэта ператворана ў "тэатр аднаго акцёра", дзе радцы па 3—4 гадзіны без перапынку слухаюць "каштоўныя ўказанні" або пагрозы пры першай спробе мець свой погляд на тую ці іншую праблему.

Адчуваючы сябе ўдзельным князьком, рэктар А.В.Бадакоў дзейнічае валюнтарысцкімі метадамі. Так, ён сваім загадам адмяніў рашэнне факультэта беларускай філалогіі і культуры аб памяншэнні колькасці экзаменаў па грамадска-палітычных навуках. Насуперак рашэнню таго ж факультэта рэктар распарадзіўся выдаць за кошт універсітэта навучальны дапаможнік былога дацэнта Магілёўскага педінстытута Г.Н.Клюсава (450 старонак), хоць наша бібліятэка ўкамплектавана гэтай кнігай (яе першым і другім выданнямі), а сам рукапіс дапаможніка нават не быў прадстаўлены для чытання і абмеркавання.

Ці ведаюць пра становішча ў Гродзенскім універсітэце людзі, якім даверана кіраўніцтва адукацыяй краіны, і ў прыватнасці міністр В.А.Гайсёнак? Мяркуем, што ведаюць. Больш таго, міністр адукацыі ведае, што ў рэктара Гродзенскага універсітэта даўно закончыўся тэрмін абрання на гэтую пасаду. Але ж мала ведаць, трэба прымаць адпаведныя меры з тым, каб Гродзенскі універсітэт стаў сапраўды нацыянальнай установай па падрыхтоўцы высокакваліфікаваных кадраў.

**Сяргей ГАБРУСЕВІЧ,** прафесар,
**Іван ЛЕПЕШАЎ,** прафесар,
**Мікалай МЕЛЬНІКАЎ,** дацэнт,
**Міхась ПАТРЭБА,** ст.выкладчык,
**Павел СЦЯЦКО,** прафесар.
**Гродзенскі дзяржаўны універсітэт імя Янкі Купалы.**

## Чым слова Божае адклікнецца?

**У Мінску праводзяцца духоўна-асветніцкія епархіяльныя чытанні, у якіх прынялі ўдзел клірыкі, веруючыя і вучоныя. Асноўная тэма гэтай сустрэчы — цяперашняе жыццё праваслаўнага прыхода і ў будучым.**

Адкрываючы чытанні, мітрапаліт Мінскі і Слуцкі Філарэт, патрыяршы экзарх усяе Беларусі падкрэсліў, што зварот да гісторыі, мінулага неабходны для таго, каб знайсці правобраз вырашэння тых праблем, што хвалююць праваслаўную царкву сёння. І ў першую чаргу гэта адносіцца да царкоўнага прыхода, да той першаасновы, на якой грунтуецца штодзённае жыццё Усяленскай Царквы Хрыстовай.

Епархіяльныя чытанні дапамогуць аб'яднаць намаганні вучоных і духавенства ў вывучэнні гісторыі царквы і рэлігіі на Беларусі. Менавіта таму першая ў рамках чытанняў сустрэча была прысвечана 200-годдзю заснавання Мінскай епархіі, якая адзначае свой юбілей 26—27 чэрвеня.

На думку арганізатараў, епархіяльныя чытанні стануць рэгулярнымі.

г.Мінск.

## "Беларуская мінуўшчына" — праўда аб мінулым

**У пакутах нараджаецца ісціна, гаварылі старажытныя філосафы. І праўда аб гісторыі беларускага народа, якую раскрывае новы часопіс "Беларуская мінуўшчына". Першы нумар выдання з'явіўся не без дапамогі ўрада, які ўзяў на сябе львіную частку яго фінансавання.**

"Беларуская мінуўшчына" — часопіс, перш за ўсё, папулярны і разлічаны не толькі на спецыялістаў-гісторыкаў. Першы нумар знаёміць з работамі вядомых вучоных аб станаўленні беларускай народнасці, пачынаючы з часоў Полацкага княства. Вялікую цікавасць у самага шырокага кола чытачоў выклічуць матэрыялы аб беларускім архіве ў Празе і гістарычнае апавяданне аб лёсе першага беларускага генерала Езавітава. Тут таксама шмат белетрыстыкі — пісем з асабістых архіваў людзей, якія стаялі ля вытокаў стварэння Беларускай Народнай Рэспублікі. Многа цікавай інфармацыі аб жыцці замежных дыяспар.

**Аляксандр ЛЮШКЕВІЧ.**
г. Мінск.

## 1100 за "Биг-Мак". Дороговато будет

**В центре Москвы вчера открылся второй ресторан "Макдоналдс".**

В отличие от первого новый принимает только рубли. Однако цены там астрономические для рядового жителя России. Гамбургер "Биг-Мак" стоит 1100 рублей.

**Константин УЛЬЯНОВ.**

*Чорнае крыла Чарнобыля*





## ...А сэрца рвецца ў родныя мясціны

Успамінаецца апошняя паездка ў чарнобыльскую зону. Бязлюдныя, змрочныя вёскі і... белая-белая кіпень садоў, пах чаромхі... Не ведаю, якое трэба мець сэрца, каб вытрываць расстанне з Бацькаўшчынай. Маладым яшчэ крыху лягчэй пакідаць родныя мясціны, а тым, хто пражыў тут шмат гадоў? Ногі самі вядуць да роднага парога.

Вёска Арэвічы Хойніцкага раёна... Адна з многіх, адкуль зышло Жыццё. Апусцела не па сваёй волі, таму і не трацяць раскіданыя па свеце людзі надзею вярнуцца. Невядома толькі, калі гэта будзе, ці хопіць сіл дачакацца. А як хацелася б зноў смела ступіць на сваю зямлю, адчыніць дзверы...

Тым не менш яны часта прыязджаюць сюды хоць на кароткі час, каб пабачыць родны кут, схадзіць на магілы продкаў... Божа, дай гэтым гаротным людзям сілы перанесці страшнае гора, не збаўляй і веры і надзеі.

**Віктар ЗАГРАДСКІ.**
**Фота Сяргея БРУШКО.**

*За "кулісамі" харчовай праблемы*

# Гэты шпагат нерваў у беларусаў шмат выцягне...

**Павел СТАСЕВІЧ**

Калі на Томскім нафтахімічным камбінаце не так даўно грымнуў выбух, то за сэрцы адразу схапіліся ў горадзе Каменск-Шахцінскі Растоўскай вобласці, а потым ёкнула і на Беларусі.

А справа ўся ў тым, што ў Томску вырабляюць сыравіну (поліпрапілен), з якой у Каменск-Шахцінску потым робяць поліпрапіленавы шпагат, якім беларусы звязваюць сена (і салому таксама), цюкуючы яго ў час сенакосу і жніва. Вось такая ўзаемазвязаная ў нас была раней эканоміка. Бы цюк таго сена — пацягні ў адным месцы і ўсё разваліцца.

Але ж вось "развязалася" ў былым СССР, ды й не ў адным месцы, — і пайшло-паехала. Цяжка зараз на Беларусі са шпагатам. А пад гэты "шнурок", лічы, зроблена амаль уся сучасная механізаваная тэхналогія нарыхтоўкі грубых кармоў. Не звяжаш — не возьмеш.

Словам, шпагат зараз, напярэдадні сенакосу, для гаспадарак — на вагу золата. Асабліва для Брэстчыны і Гомельшчыны — тут на сенажаці выходзяць раней за іншых.

Выкручваюцца гаспадарнікі зараз хто як можа — ганцы "разляцеліся" ў розныя бакі. Не спяць у шапку ва ўрадзе, у Міністэрстве сельскай гаспадаркі — шукаюць шляхі бартэрнага абмену: нашы МТЗ ды МАЗы цэняцца на прасторах СНД.

А шпагату беларускім вяскоўцам трэба хаця б дзве тысячы тон (раней "ішло" 3600—3800 тон). Праўда, "ішло" і ў Польшчу — да суседзяў таго шпагату нашымі "турыстамі" вазілася ох нямала: там плацілі за яго добра.

Зараз, як бачна, "апетыт" многія гаспадаркі зніжаюць, і не па сваёй віне — дорага! У забеспячэнцаў Мінсельгасхарчу нядаўна ўбачыў тэлетайпаграму: з Каменск-Шахцінска паведамлялі, што "в связи с изменением цен на сырье, энергоносители цена полипропиленового шпагата в апреле 765 руб.60 коп.—778 руб.80 коп. за 1 кг с НДС" (налог на добавленную стоимость. — **Авт.**).

А якая будзе па выніках мая?..

Сядзім са спецыялістамі і лічым, у што гэта ўсё "выльецца". Калі кілаграм шпагату "цягне" амаль на восемсот рублёў, то тона, улічваючы транспартныя выдаткі, будзе каштаваць каля 820 000—840 000 рублёў. А тон тых нам трэба як мінімум, паўтаруся, дзве тысячы...

Калі нашы чытачы (асабліва гараджане) усё перамножаць, то, думаю, зразумеюць, чаму харчы ў нас усё даражэюць. І не будуць наракаць за гэта толькі на сялян.

І поліпрапіленавы "шнурок" — толькі маленькая частка таго фундаменту, на якім трымаецца беларускае сала-мяса. А вазьмі шырэй? Капні глыбей?..

— Дык чаму б той шнурок не рабіць у нас?! — усклікнуць, відаць, некаторыя чытачы. — Нафтаперапрацоўчых жа гігантаў на Беларусі хапае!

Усё так. Але я пагартаў пухлую перапіску па гэтаму пытанню, пaглядзеў заключэнні спецыялістаў Дзяржэканамплана і даведаўся, што пакуль што такія спробы не ўдаліся, а на арганізацыю "сваёй" вытворчасці патрабуецца столькі валюты...

Адным словам, бартэр і закуп пакуль што для нас выгаднейшы.

Што ж, спецыялістам відней. Будзем спадзявацца, што нейкія варыянты наконт беларускага поліпрапіленавага шпагату знойдуцца.

Напрыканцы мне застаецца толькі горка ўсміхнуцца: па словах дасведчаных людзей, са шпагатам нам на пэўных умовах зараз бяруцца дапамагаць... палякі. Відаць, мнагавата гэтага дабра туды мы з вамі, даражэнькія, нацягалі.

Так што будзеце збірацца ў Польшчу — пакіньце шпагат дома. Тут без яго таксама няўпраўка...

*Біржавыя навіны*

## Не займайце чаргу! У продажы — толькі крэдыты...

**На тыдзень, а то і больш спынена работа з каштоўнымі паперамі на Беларускай фондавай біржы. Прычына таму — затрымка з атрыманнем ліцэнзіі ў Дзяржінспекцыі па каштоўных паперах.**

Такім чынам, гандаль каштоўнымі паперамі прыпынены. Аднак, каб захаваць пастаянных кліентаў, прадстаўнікі біржы вырашылі прадаставіць ім у часовае распараджэнне свой інфармацыйны банк даных. Чакаецца, што таргі на БФБ адновяцца на наступным тыдні.

У больш выгадным становішчы аказаліся прадстаўнікі банкаўскіх структур. Таргі крэдытнымі рэсурсамі Нацыянальнага банка, а менавіта яны прыцягваюць банкіраў, — адбыліся.

**Кацярына ВЫСОЦКАЯ.**
г.Мінск.

*Факт*

## Великий Шевченко в душе народной

**Тарас Шевченко для Украины нечто большее, чем символ воплощения национального духа. Каждое событие, связанное с именем Кобзаря, превращается в настоящее празднество.**

Вот и в конце мая в Киеве прошел митинг-манифестация, посвященный годовщине перевоза праха Тараса Шевченко на Украину. Демократические силы, представители творческой интеллигенции провели его с размахом, с привлечением широких масс киевлян и гостей столицы. Ведь канули в Лету те времена, когда подобные празднества категорически запрещались.

**Анатолий БЛИЗНЮК,** первый секретарь посольства Украины в Республике Беларусь.

## Поделились по-братски

**Положительно решен вопрос о возвращении в Беларусь библиотеки графов Хрептовичей, которая до сего времени находилась у наших украинских соседей.**

Об этом сообщил директор Национального научно-просветительного центра им. Ф.Скорины Адам Мальдис.

Решение вернуть графскую библиотеку на родину стало инициативой в ответ на шаг доброй воли, сделанный два года назад. Тогда, в 1991 году, Национальная библиотека Беларуси отдала украинцам часть литературных собраний Петлюры. Однако широкой огласки событие не получило, потому что на имени этого национального деятеля тогда еще лежало табу...

**Екатерина ВЫСОЦКАЯ,**
Белинформ.

*Вчера, сегодня, завтра*

# Стоит на Грушевке Белполк

**Павел ЯКУБОВИЧ**

Почти все минчане знают, что в старом районе, на Грушевке, стоят желтые казармы, в которых живут солдаты с красными погонами. Молва окрестила эту часть Белполком, и, говоря так, люди не очень-то знают, что они совсем недалеки от истины. Действительно, в 20-е годы так называлась территориальная часть войск внутренней охраны ОГПУ — Белорусский полк. Прошли годы, красивая аббревиатура осталась в памяти и стала частью минской городской жизни, одной из достопримечательностей нашей столицы.

У полков и батальонов, которые жили здесь, сменяя друг друга на протяжении шестидесяти лет, бурная и удивительная история. В ней причудливо перемешались страницы трагические и славные, высокие и низкие, те, которыми можно гордиться и за которые стыдно.

Что ж, такова и вся наша история.

А уж внутренние войска, расквартированные в республике и так или иначе ставшие наследниками Белполка, не минули ни крови, ни слез, ни бравурных маршей, на которые не скупилась замечательная эпоха, начатая выстрелом авроровской шестидюймовки.

В 20-е годы воины-чекисты охраняли границу под Негорелым, заталкивали ошеломленных слуцких мужиков в телячьи вагоны и увозили их на Печору. В 30-е стерегли тюрьмы в Гомеле, Минске и Могилеве и конвоировали, конвоировали... В том числе и своих бывших наркомов, комбригов. А потом, вслед за дивизиями маршала Тимошенко, стали гарнизонами в Вилейке, Белостоке и Бресте. Затем воевали, сражались в Беловежской пуще с аковцами и полицаями, конвоировали на восток пленных. Помните знаменитый марш немцев через Москву? Молодые солдаты-всадники, сопровождающие колонны, — бойцы Белполка. Были отчаянные бои под Воронежем, были и "спецкомандировки" в Кавказские горы, где войска принимали участие в постыдных депортациях горцев в Казахстан. А в 1949 году, в самый разгар сталинской ночи, солдат и сержантов переодели в мешковатые костюмы и широкополые шляпы, погрузили в вагоны, а потом через Одессу секретно перевезли в Софию. Разгуливая по улицам с чемоданами, в которых лежали автоматы ППШ и ручные гранаты, бойцы из Минска обеспечивали "порядок" во время суда над Трайчо Костовым... В 1968 году был воздушный перелет в Прагу, в 80-х "представители" войск воевали на автотрассе Кабул — Хайратон, а между "делом" учились истреблять диверсионно-разведывательные формирования предполагаемого противника, охраняли колонии, конвоировали осужденных, боролись с холерой в Астрахани и цезием в Чернобыле. Естественно, не обошлось без перестрелок в Баку и боев в Карабахе.

Это только самая малость из того, что записано в формулярах частей, квартировавших в казармах Белполка на Грушевской. Дай вам Бог, любознательный читатель, познакомиться с кем-нибудь из ветеранов этих полков, крепким на память и словоохотливым. Он расскажет вам то, что не прочтете вы ни в одной книжке! Ну, а мне пора перейти от преданий старины глубокой ко дню сегодняшнему, потому что причудливое колесо истории развернулось так интересно, что в старых казармах опять расположились солдаты, которых смело можно назвать Белполком. Они подчиняются уже не штабу "конвойной" дивизии, не московскому Центральному управлению внутренних войск МВД СССР, а командующему, которого назначило правительство Беларуси.

Они — личный состав внутренних войск Республики Беларусь.

...На старом войсковом стрельбище под Раковом не так давно командующий войсками полковник Валентин Аголец принимал журналистов. Я когда-то служил в Белполку, все это стрельбище знаю на ощупь, вдоволь наползался по-пластунски, казалось бы, что может удивить? Однако был поражен. Совсем не те неуклюжие и низкорослые, с трудом понимающие, чего от них хотят, солдатики, их которых комплектовались в 70-е годы войска МВД (что оставалось после ракетчиков, подводников, пограничников и т.д.), а крепкие, смышленые парни с Витебщины и Брестчины показали, что такое спецназ и вообще сегодняшние внутренние войска. Бойцы в краповых беретах метко стреляли, совершали акробатические прыжки, превосходя киношных ниндзей, а всю эту мускульную силу подкрепляла солидная огневая мощь. Причем не только легкого стрелкового оружия, но и танков, безоткатных орудий и зенитных комплексов. Командиры, организаторы учений, действовали при этом спокойно, хладнокровно, в них чувствовались опытные рубаки, да, к слову сказать, сам полковник Аголец за 20 лет службы редко отсиживался в штабах — то гарнизоны в пустынях, то перестрелки в Средней Азии, был тяжело ранен.

Словом, увидев такую мощь, журналисты были, мягко говоря, слегка шокированы. Ведь до сих пор многие представляли внутренние войска в виде зябнущих солдат на караульных вышках да патрулей на улицах.

Оказалось, что войска — это серьезно!

Но за лихими действиями спецназа, за громом орудий прячутся, конечно, и серьезные проблемы, которых не избежать при такой коренной ломке, каковой явилось формирование внутренних войск государства. Побывав в военном городке, в том самом Белполку, поговорив с офицерами и солдатами, я получил представление о некоторых проблемах. Вот они. Прежде всего срочно, позарез нужен закон о внутренних войсках, который стал бы правовой базой и основой для жизни тысяч солдат и офицеров. Принятие этого закона сняло бы многие вопросы, которые слишком специфичны, чтобы говорить о них в этой корреспонденции, но они, поверьте, очень нужны для того, чтобы войска, как это уже не раз, к сожалению, бывало, не превратились в "вохру".

Пока, к счастью, улавливается обратная тенденция. После расхлябанных многочисленными "спецкомандировками" последних лет части и подразделения войск обретают все более и более четкие организационные формы. Дело в том, что примерно с середины 70-х годов служба в Беларуси стала лакомым кусочком для генеральских детей из верхушки МВД Союза. Юные лейтенанты прибывали в Минск, Барановичи и Могилев, нагоняли своими фамилиями страх и почтение, перескакивали со взвода на роту и уже через полтора года оказывались в Академии им.Фрунзе. До солдат ли им было, до поддержания ли дисциплины? Надо признать, что "сынки" крепенько разложили Белполк... Полковник Валентин Аголец получил в наследство разболтанные полки и батальоны, но за короткое время круто изменил дело. Вот и структура изменилась, стала более четкой и управляемой, и штабы поредели, вот и уходит безвозвратно мода на "проверки" и "комиссии", которые порой вносят сумятицу и мешают работе командиров. Еще на моей памяти время, когда командир полка имел, по сути дела, прав не больше, чем лейтенант. Сегодня взят курс на самостоятельность. Комбриги и комбаты начинают работать без оглядки, а значит, порядка и смысла стало больше. Меня вот что поразило. Аголец взял да и устранил само понятие "воспитательная работа". Рискованный шаг, многие поеживались. Непонимающим командующий объяснил: "Воспитывают в детском саду и школе. В войсках обучают и готовят бойца психологически". По-моему, до этой простой идеи еще не дошли в Московской гуманитарной, бывшей политической Академии. Что за смысл ежедневно внушать солдату, что он должен быть храбр и бесстрашен? Одно занятие по преодолению специальной полосы препятствий под грохот взрывов и сполохи настоящего огня заменят десять политзанятий и бесед.

Вот так сейчас живут войска. Старательно и напряженно учатся, несут службу, которая называется боевой. Матери могут быть спокойны за своих детей, которыми командует боевой полковник Валентин Аголец,— в казармах уютно, в столовой кормят сытно, офицеры не отбывают номер, а старательно исполняют свои обязанности. Это особо важное обстоятельство — офицеры внутренних войск Беларуси в отличие от многих коллег из пехоты, ВВС не лишены служебной перспективы, а значит, есть смысл стараться, чтобы расти по службе.

...Вот несколько беглых впечатлений и комментариев к снимкам нашего фотокорреспондента Сергея Грица. Бурная история Белполка пишется Жизнью дальше. Мне очень хочется, чтобы сегодняшние солдаты и офицеры, которые ходят по старому строевому плацу на Грушевке, оказались счастливее своих предшественников. Пусть их не затронет черное крыло пособничества в репрессиях против своего народа, войн, "командировок" в "горячие" и далекие от нашей Беларуси точки. О них, солдатах внутренних войск, мало знает публика, но это очень серьезные и очень нужные нашему государству войска. Мы еще не раз расскажем о жизни и службе Белполка...





